# Пясьняр

“Я не пасьпеў дастаць да неба...” сумнавата заўважае паэт Алесь Камоцкі. Ён ня звык да прыземленасьці. Голас барда Алеся Камоцкага хораша пачувае сябе ў міжзор’і ўдзячных сэрцаў. Філосаф па адукацыі, тонкі лірык на паслугах у роднага слова. У век усеагульнай папсы яго песьні вяртаюць душу да вытокаў, натуральна гучаць беларускаму вуху, не губляюцца ў сугуччы песьняў суседзяў.

*Толькі песьні могуць вечна жыць,*
*А людзей на доўга не хапае,*
*Ім не перайсьці сьляпой мяжы,*
*За якой так хораша сьпяваюць.*

Гэта ня лозунг, гэта крэда Алеся Камоцкага, гэта практыка, гэта ўзьнёслая паўсядзённасьць глыбоканацыянальнага барда.

Як ня зблытаеш сьпеў утрапёнца, так ня зблытаеш і паэзію Алеся Камоцкага.
Цяжка аддаць перавагу ў яго песьні мелодыі ці словам. Яшчэ і голас…
Ён піша і на свае тэксты (крыху прыніжана гучыць слова тэксты ў дадзеным выпадку), і на словы іншых паэтаў. Шмат і непаўторна перакладае. Я назваў бы гэта не перакладамі, а перасьпевамі.
І ў новай кнізе паэзіі багата такіх перасьпеваў.
Дарэчы, дужа арыгінальна пададзена, ня быў бы гэта маэстра Алесь — на мове арыгінала друкуецца прозьвішча аўтара і імя ягонага твора.
Зьдзіўляе прадуманасьць зьместу. Да прыкладу, паміж дзьвюма песьнямі пра каралеў — сьмешны вершаваны рэцэпт, як гатаваць верашчаку. Песьні песьнямі, а закусь сама сабой.

Натуральная сапраўднасьць правяраецца на тым, як ён піша пра маці, бо мяноўна ад маці і жыцьцё, і паэзія. У Алеся:
*Жыццё — суцэльная нагода*
*Нам за яе аддзячыць маме.*
Ня буду шмат прыводзіць цытат на майстэрства і непаўторнасьць. Давялося б як ня ўсю кнігу прывесьці ў прыклад. А што тады чытачу рабіць?
Не асьмелюся красьці ў яго радасьць. Разбэрсаныя свае радкі закончу каротка:
*Бог даў і талент, і моц каму?*
*Вядома ж — Алесю Камоцкаму!*

P.S. Да неба прызнаньня і павагі паэт, філосаф і бард Алесь Камоцкі дастаць пасьпеў!

**Рыгор Барадулін**

## Навошта было мінулае

Узрост нам гады прысьпешвае —
Пачатак усё далей,
Зьбянтэжваюць зьмены зьнешнія
І сум у вачах, але...
З таго, што ня трэба памятаць,
Ня робім праблем ужо,
І што не паразгублялася,
Запозьнена беражом.

Калі пажаданым атулішся,
Натолішся аж цераз край
— Навошта было мінулае, —
У будучыні не пытай.

## Не любіў я ніколі дарогу

Дзень пражыты, ў памяці спынены
Крок ад існага да забытага,
Адчуваньне чарговай магчымасьці,
Як падручнік жыцьцё перачытвае.
Тут я ёсьць да канца не растрачаны,
Там я быў не пачаты, учорашні.
Параўнае зямля крокі нашыя,
І ня факт, што цяпер яны большыя.

Быццам я пераблытаў пачуцьці,
Не сваё карыстаю цяпло,
Падарыце мне шлях і забудзьце,
Што калісьці яго не было.

І пакуль мы стамляцца навучымся
Ад карыснага і непазьбежнага,
Дні пражытыя памяць пракручвае,
Праглядае і перамешвае.
Патрабуе, каб азірнуліся
Ды нарэшце сябе супакоілі.
Не бывае дарогі з мінулага
Без слядоў ад грахоў незамоленых.

## **Мой шлях, вядзі мяне, вядзі…**

Стамляе дзень і ня хочацца вечара,
І забывае душу галава,
А сны ўпарта начуюць у вечнасьці,
Там, як ні дзіўна, роспачы няма.

Вабіць усьлед за нязбыўнай надзеяй
Шлях пакручасты, ушчэнт замроены.
Нам у жыцьці падабаецца ўдзельнічаць,
Нават калі няма настрою.

Як часта мы не зважаем на існае
І спажываем прыдуманы сьвет.
Нам за далёкім ня бачыцца блізкага,
Што валадарыць жыцьцём неўпрыкмет.

Бывае, сьнім, як усё атрымаецца,
І расьцягнуць намагаемся сон
Замест таго, каб чарговаю раніцай
Бачыць тое, што дзень надыйшоў.

Стамляе дзень і ня хочацца вечара,
І забаўляе душу галава…

## Я доўга глядзеў на ваду

Хавалася сонца за бор,
З вазёрнай гуляючы хваляй,
Вакольле чакала Купальля,
А час не валодаў сабой,
І восень як быццам яшчэ
У нейкіх краях неспазнаных
Насуперак нашым жаданьням
Насустрач паволі цячэ.

Я доўга глядзеў на ваду,
Што колер мяняла пад вечар
І мне мітусьліва адсьвечвала,
Чакала калі падыйду,
А восень была апасьля,
Узьнікла ізноў нечакана,
Лісьцё раскідала барвянае,
Каб бачылі ўсе, што прыйшла.

Я вочы нагрэў аб вагонь,
Я з цяжкасьцю здолеў адвесьці
Свой позірк на іншае месца,
Агонь уздыхнуў наўздагон.
А восень прыйшла апасьля,
Прыйшла, як заўжды, нечакана,
Спаліла ўсё раскіданае,
Бяз яўнай ахвоты прыйшла.

Калісьці напружаны час
Згасае, як доўгая хваля,
Учора пра восень казалі,
А сёньня яна паміж нас.
Спакойна прыйшла апасьля
На зьмену былым спадзяваньням,
Прыгожая і апантаная,
Надзвычай звычайна прыйшла.



## Белы край

Белы край, зорны шлях,
Даляглядзы празрыстыя
Сьніць да часу вясна
За мяжой рэчаіснасьці.
Белы шлях, зорны край,
Ноч зімою бясконцай...
Хто ж другога чакаў
Пасьля захаду сонца.

Зорны край, белы шлях,
Час складаецца з момантаў,
Час жыве ў вачах,
Час ніколі ня стоміцца.
І чакай не чакай —
Дачакаешся раніцай
Зорны шлях, белы край
І ў марах, і ў памяці.



**Хада**

Запытаўся я ў нікога,
дзе канчаецца дарога,
Ад якой мне ногі баляць?

Як адказу не пачую,
то знайду сабе другую,
Тую, што, як быццам, мая.

Каб была без каляіны
і вяла да той мясьціны,
Дзе б мяне чакаў хоць бы...
Хто?
Зрэшты — гэта толькі словы,
бо няма дарогі новай...
Спасьцігаю крок чарговы.



## Навакольныя людцы

Па ўсім белым сьвеце не палічыш дакладна
Незнаёмых надоўга і нядоўга знаёмых,
Што ня лічаць за справу спраўна праўду наладзіць,
Каб пасьля ёй паверыць абсалютна сьвядома.

Ім заўсёды вядома, што было і як будзе,
Паспрабуеш аспрэчыць — сам сабе не паверыш.
Быццам твары як твары, быццам людзі як людзі,
Толькі вось за манеры хаваюць намеры.

Пачуваюцца добра,
Выглядаюць цывільна —
Як арабы ў Ягіпце,
Як жамойты ў Вільні.



**Цішыня**

Цішыня без адпачынку,
Поўны вечар цішыні,
Млява мроіцца айчына
Па-за межамі вайны,
Па-за межамі прыгодаў,
Па-за межамі вякоў,
З пэўнай колькасьцю народу
І амаль без мудакоў.



**Час**

Час упарта робіць заўтра кожны дзень,
Аддае сябе аўторак серадзе,
Толькі памяць дазваляе ход назад,
Ды і то, каб незваротнасьць паказаць.

**Край мой**

Сьпяць дубы векавечныя
Над замшэлым каменьнем,
Побач дні чалавечыя
Пралятаюць імгненьнямі.
Век агонь тут захоўвае
І ваду не чапае,
Але робіць часоваю
Чалавечую памяць.

Край мой бачыць азёрамі,
Край мой чуе лясамі,
Край мой літары зорныя
Ў небе ночы чытае.
Як калісь пачыналася,
Як свой лёс усьвядоміць...
Ўсё, на што забываемся,
Край працягвае помніць.

Камянямі замшэлымі,
Векавымі дубамі
Нам легенды адмервае
Запаветная памяць.
Час агонь тут захоўвае
І ваду не чапае,
А хвіліна чарговая
Нас цярпліва чакае.



## Як ведаць

Ці можна дакладна ведаць,
Што здарыцца заўтра з намі,
Ці нам пашанцуе днямі,
Ці будзем чакаць далей,
Ці трэба шукаць прыгоды,
Ці жыць у суладдзі з модай,
Маўчаць і пры гэтым верыць,
Што з марамі весялей?

Ці можна дакладна ўспомніць
Шчыгулы часоў мінулых
І тое, што недачулі
Ці варта давыдумляць?
Па-рознаму заўтра людзі
Пра сёньня ня думаць будуць,
Як станецца незнаёмай
Калісьці свая зямля.



**Маё сэрца**

Звар’яцелай птушкай белай
Сэрца б’ецца па-за целам,
Хай пабудзе чым хацела,
Толькі б болей не балела...

Маё сэрца адрастала
Кожны раз на новым месцы,
Засынала на вакзале,
А жыло там, дзе прачнецца.

Я чакаць ужо ня ўмею,
Мне ісьці туды няймецца,
Дзе надоўга адхварэе
Перарobленае сэрца.



## Халодны цень

Халодны цень ня бачыць сонца,
Вятры шукаюць дзе заснуць.
У межах дня туман бясконцы
Хавае новую вясну.
А мы ня гэтага чакалі
І не да гэтага ішлі.
Мы не хацелі як звычайна
І, як звычайна, не змаглі.



**Мама**

Праходзіць час, мільгае днямі,
Ператвараецца ў мінулае,
І толькі дзякуючы маме
Мы марым, дыхаем і думаем.

Мы бачым, сьнім і трызьнім лепшым,
Чакаем, верым, спадзяёмся...
Для мамы ж мы ў рэшце рэштаў
Заўсёды дзецьмі застаёмся.

Мільгаюць дні, і час праходзіць,
І разумеем мы з гадамі —
Жыцьцё — суцэльная нагода
Нам за яго аддзячыць маме.

**Сьнег**

Сьнег асьцярожна складае
Неба на горад настылы —
Гэта зіма маладая
Дзеліць сваю чысьціню.
Быць адмыслова шляхетным
Сьнежань яна папрасіла.
Сьнежань дамовіўся з ветрам,
Вецер пакуль што заснуў.

Шэптам здараюцца словы,
Сэнсу нарэшце няма.
Бачыш, як сьвет паступова
Атуляе зіма.

Заўтра штодня карацее
Роўна на тыя хвіліны,
Што бясклапотна ляцелі,
Склаўшы паціху гады.
Часу няма адпачынку
Па невядомай прычыне,
Ён з існага самы няспынны,
Ён толькі ідзе не туды.

Час адбываўся бязважка,
Беглі гадзіны дарма —
Гэта чарговую казку
Пачынала зіма.



**Часам**

Часам нам даецца выбар
І ў тым, чаго няма,
Часта мы шукаем хібаў
І ня бачым
... а дарма.

Потым зноў даецца
выбар
І ў тым, чаго няма,
Мы зусім ня бачым хібаў
І шукаем
... а дарма.



* * *

Дажыць да шчасьця,
А што далей?
Адно імгненьне —
І толькі памяць,
І толькі рэшткі
Былых надзей
Салодкім дымам
Перад вачамі.

Нарэшце можна
Ужо ня марыць,
Нарэшце маеш,
Што так хацеў.
Усьмешка стала
Жыве на твары,
Ды толькі голас
Маўчыць часьцей.

Атрымаеш жаданы спакой,
Непатрэбны і своечасовы,
Пажывеш у суладдзі з душой
Ды з казанымі некалі словамі.

**Адкахаць**

Хто ж там ведае, дзе і калі
Не адбудзецца новай сустрэчы,
І той час, у якім мы былі,
Успамінам кладзецца на плечы.

Быў жа дзень, што ўсё разумеў,
Бо так лёгка казаліся словы,
Толькі там, падавалася мне,
Заставацца ўжо бессэнсоўна.

Беглі дні, як кругі па вадзе,
Сярод іх праз памылкі ўласныя
Я выходзіў з сябе, каб глядзець,
Як каханьне змагаецца з часам.

Адкахаць канчаткова калісь
Давядзецца, нічога ня зробіш —
Напачатку крыху пабаліць,
Але потым усё будзе добра.

Дні бягуць, як кругі па вадзе,
Сярод іх праз памылкі ўласныя
Я выводжу сябе паглядзець,
Як каханьне зьмяняецца з часам.



**Недасяжнасьць**

Выпадковых вачэй недасяжнасьць,
Нечаканая і маўклівая,
Іншым разам дарогу пакажа
Ад сучаснасьці мітусьлівай.

І як пах ад няпітае кавы,
Па-за ўласнасьцю толькі існая,
І цікаўная, і цікавая
Можа болей не паўтарыцца.

Выпадковых вачэй недасяжнасьць,
Нечаканая і маўклівая,
Незаўважнай была, як звычайна,
У сучаснасьці мітусьлівай.

**Ліпеньская ноч**

Ліпеньскай ночы на сон не ставала,
Сонца з усходу праменіла вецер,
Побач хвіліны ішлі непрыкметна,
Ды іх было мала, іх было мала.

Нашай сустрэчы як не існавала,
Не пасьпявалі ні думкі, ні словы,
Каб патлумачыць, што гэта часова.
Толькі адно ўдавалася — марыць.

Мала было нам наступных гадоў,
Што непрыкметна з дарогі зьнікалі.
Неяк ня надта хацелася ўдалеч,
Але па-іншаму час не ішоў.

Новай сустрэчай канчаецца дзень,
Сподзевам цешыць нязбыўная мара.
Ну няўжо немагчыма, каб зараз
Моўчкі збылася старая надзея.



## Ужо

Я забыўся бачыць сэнс жыцьця,
Звыкся з пастаяннай насьцярогай,
Я ўжо пралічваю працяг
І, як мэту, ведаю дарогу.
Спыненых імгненьняў хараство
Саступае месца слушным рэчам,
З глыбіні пачуцьцяў чалавечых
Так няшмат у побыт перайшло.

Я забыўся дзе твае сьляды,
Што мяне калісьці хвалявалі,
Я не адчуваю смак вады,
Шклянку да канца не дапіваючы.
І зусім па-новаму ня сплю
У часы, калі прыходзяць мары,
І спрытней ужо маўчыць гітара,
Слухаю часьцей, чым сам пяю.



**Я не пасьпеў?**

Я не пасьпеў дастаць да неба —
Яно схавалася ў начы,
Яно мяне ня хоча ведаць,
Але чаму — пакуль маўчыць.

Маўчыць спакойна, нерухома,
Ўрачыста, як упершыню.
Пад небам я іду дадому,
Пад ім чарговы год мінуў.

Пад небам сон мяне атуліць,
Каб я ўцяміў пакрысе,
Чаму ўсе мяне ня чулі,
І тое, што казалі ўсе.

## Восень

Восень павольным робіць успамін,
Восень рыхтуе вецер да зімы.
І так хочацца ня верыць,
Што нічога не зьмяніць...
Мы ў ліпені і ў жніўні,
А ў верасьні ня мы.

Ліпень меў што хаваць,
Ліпень ноч гадаваў,
Сноў, даўжэйшых за ноч,
Адбылося багата.
І працята было
Каляровым цяплом
Ад цямна да цямна
Невядомае сьвята.

Жнівень меў кожны дзень
Шмат наіўных надзей,
Не хацеў разумець,
Што і ён не бясконцы,
Але час не пытаў,
Як яму пралятаць,
Бо трымаў у руках
Захварэлае сонца.

Восень павольным робіць успамін,
Восень рыхтуе вецер да зімы,
Лістапад адлістападзіць
І нагоніць халадоў.
Дзе той ліпень, дзе той жнівень?
Колькі ім цяпер гадоў?



**Ранкам**

Спалохаў вецер ранкам цішыню
І, абудзіўшы сонную надзею,
Маўклівай хмарай сонца агарнуў,
Каб на зямлю пакуль што не глядзела.

...а хмара сарамліва заірдзела.



## Як дзень...

А дзень,
што сьлепа прагнуў лепшага,
не супакойваецца вечарам,
Упарта не знаходзіць нечага,
каб проста рухацца далей,
І са зьдзіўленьнем у вачах
Скрозь сон
імкнецца новы шлях
пасярод ночы распачаць,
Пад маладым прачнуцца месяцам,
наіўна прагнучы бясконцага,
Адчуць сябе
часьцінкай вечнасьці,
якая некалі ўспомніцца.
І пажаданьняў не зьдзяйсьняючы
З-за іх адсутнасьці навязьлівай,
Дзень з новай сілай пачынаецца
І, калі шчыра, то ня ўражвае.



**Ты дзеліш не са мною далячынь...**

Цела натоліць смагу вадою,
А чым супакоіць мне прагу душы?
Як у памкненьні яднаньня з табою
Выйсьці за межы і не саграшыць...

І вар'яцее сьвет ад самоты,
Бо сэнсу ня мае зямное жыцьцё.
Ные душа і так прагне палёта
Разам з нябесным маім пачуцьцём.

Смагу натоліць цела вадою,
А чым супакоіць мне прагу душы?
Ты не са  мною...
Ты не са мною...
Ты не са мною...
Душа ні пры чым...

Ты дзеліш не са мною далячынь...

**Дзень чакаў**

Хмары ў небе, шэры горад,
Неспакойна ў жыцьці
Мне было, але ўчора
Час прыйшоў цябе знайсьці.
Горад ціха ўсьміхнуўся,
Вецер хмары разагнаў,
Мне ў вочы зазірнуўшы,
Дзень чакаў.

У сьвятле тваіх вачэй
Абарвалася размова,
А навокал век ляцеў,
Не крануўшы нас.
Ні вясны і ні зімы,
Толькі вочы, толькі тыя словы,
Толькі ты, толькі я,
Толькі мы!

Нас пакліча дзень бясконцы,
Зазірнуўшы ў душу,
Будуць помніць промні сонца,
Як хацелася пачуць
Голас новага каханьня,
Што імкнецца праз гады,
І агульнае дыханьне
Назаўжды.

Мары мроямі ў снах
Праляцелі над зямлёю,
Іх забрала вышыня —
Гэта быў пачатак дня.



## Толькі песьні

Толькі песьні могуць вечна жыць,
А людзей надоўга не хапае,
Ім не перайсьці сьляпой мяжы,
За якой так хораша сьпяваюць.



**Сон**

Я прысьніў каралеву,
сумяшчальную толькі з сабой,
І на самым пачатку яна мне сказала на вуха,
Што жыве літаральна ў кроку, але за мяжой,
І чакае, што я забягу яе казкі паслухаць.

Быццам бы паразуменьне
дзень наступны нясе,
Але ж ты — каралева,
ты ня можаш быць як усе.

Я ня надта і верыў ва ўласныя думкі вясной
І ў словы звычайныя веры ня меў адпачатку,
Проста ты — каралева,
сумяшчальная толькі з сабой,
Ты кахаеш мяне, але неяк жа ж не па парадку.

**Верашчака**

Каб зрабіць верашчаку з блінамі,
Шклянку піва і трошкі вады
Наліваем у посуд бляшаны
І каўбасы кідаем туды.

Хай кіпіць гэта ўсё, а тым часам,
Сьлёзы з твару абцершы рукой,
Мы паціху цыбульку падсмажым
І пасыпем пшанічнай мукой.

І патэльню з духмянаю масай,
Патрывожыўшы моцным агнём,
Заліваем булёнам каўбасным,
Воцат, цукар і соль дадаём.

Дробна кроім каўбасы ў соус,
Трошкі перчым і тушым далей...
Вось і ўсё. Хутка будзе гатова —
Смаж бліны і глядзі весялей.

Вось і ўсё. Верашчака гатова.
Налівай і глядзі весялей.



**Каралева**

Прамінулыя сны не зьбіраюцца ў будучы дзень,
Перапіўшы дажджу, іх па часе раскідвае жнівень,
А навокал жыцьцё, не зьдзіўляючы болей, ідзе,
І нібыта ў ім нам нанова сустрэцца мажліва.

Ды ізноў ты ня там, адкуль бачна бывае мяне,
Я хачу зразумець,
для чаго мне патрэбны той позірк,
Калі восень, як сон, пачалася ў мінулай вясьне,
То няхай нібы сон,
непрыкметна мінаючы, пройдзе.

Фантастычная ноч будзе з пятніцы на панядзелак,
Калі восень аддасьць тое, што шкадавала вясна,
Калі бабіна лета адновіць былую надзею
І калі табе ўдасца мяне пры сустрэчы пазнаць.



**Водар**

Як водар першага каханьня
Далёкім рэхам цішыні
Народзіць новых прадчуваньняў
І дасьць магчымасьць іх прысьніць,
Так водар новага каханьня
Далёкім рэхам першыні
Падорыць сьвежых прадчуваньняў
І немагчымасьць іх прысьніць.

**Шукай мяне**

Шукай мяне ня толькі там, дзе хочаш бачыць,
Шукай мяне і там, дзе я звычайна ёсьць.
Мы так аднолькава ўмеем не спаткацца,
Хоць кожны з нас пры гэтым марыць пра сваё.

Знайдзі мяне цяпер, калі я побач,
Сярод нябачных думак пра цябе,
Дзе асьцярожна восень надыходзіць
Імгненьнем, поўным зьдзіўленых надзей.

Знайдзі мяне хутчэй, каб болей не сьпяшацца
У непазьбежнасьць надыходзячага дня,
У даўняй мары апынуцца па-за часам
Ёсьць безьліч месца, бо пакуль там толькі я.

Знайдзі мяне па-за будзённым тлумам —
Я там жыву натомленай душой,
Хай будзе ўсё ня так, як я прыдумаў,
Знайдзі мяне, як я цябе знайшоў.

## Daiva Čepauskaitė
## Дайва Чапаўскайце

Адвязалася смутнае сонца ад нечага зьверху,
за пагоркам сядзіць, прадукуючы заўтрашні дзень.
Мы, забіўшы на гэта, спакойна зьнішчаем гарэлку,
паралельна зьнішчаючы час перасьпелых надзей.

Мы ня маем нічога, нам быццам няма куды падаць,
мы стаім на шляху ад братоў да братэрскіх магіл.
Новы верш, сапсаваўшы паперку, кагосьці ўзрадаваў,
а камусьці няўцям нават тое, што дзесьці ён быў.

Ідучы праз гады, мы зьдзіўляцца ўжо ня ўмеем,
забіваем на ўсё, што сьпяшаецца нас карыстаць,
што выводзіць жыцьцё па-за межы рэальных намераў
І паводзіць сябе, нібы мы ў яго ў гасьцях.

Мы сплацілі ўсім, нават тым, што рахункі згубілі,
мы купілі свабоду і зьзяньне вагню ў вачах,
І яшчэ шмат таго, што з гадамі становіцца пылам…
Вось такое жыцьцё, і другога нам не распачаць.

**Leon Gurvitch Project**
**Infinite Ocean**

Акіян у цішы самотных сноў.
Месяц пракладае сьветлы шлях.
Рушу праз пустэчу да цябе.
Неба,
вецер дай,
хвалі ўзьняць
пара.
Прагну шторму,
Бо ён
адзін
паскорыць рух
мой.
Ды ці ж ты патрапіш
зразумець мой сьвет
І мой шлях,
Дзе чарговы крок
вышэй за мінулы?..

Як палёт
туды, дзе варта быць,
Туды, дзе на нас
чакае воля.
Подых твой у сэрца мне
Полымем шлях прабіў,
спаліўшы ноч...
Мары любяць той агонь,
грэюцца і вабяць
У сваю вышыню.
Над мітусьнёй
узьляцець,
не глядзець на зямлю,
Неба дасягнуць,
У вочы яму зірнуць
і знайсьці цябе,
Наперад разам быць,
забыцца на ўсё —
Тут толькі ты і я.




**Luiz Bonfa**
**Manha De Carnival**

Іду не туды, як заўжды,
А вецер зьдзімае сьляды
І песьню новую
Мне прапаноўвае,
Ды я ня слухаю,
Пяю сваю.

Пра час, калі з'явішся ты,
Расказвае просты матыў
У сьпеве маім
Ёсьць месца дваім —
Хачу цябе пачуць.



**Патлис Бэнд**
**Як я без Тебе**

Смагу натоліць цела вадою,
А чым супакоіць мне прагу душы?
Я у памкненьні яднаньня з Табою.
Як да Цябе мне дайсьці? Навучы!
Сьвет без Цябе мне пусты і халодны,
Ты клічаш мяне ў Сваю вышыню,
Неба адкрыўшы душы для палёта,
Крылы слабыя ёй дай разгарнуць.

У цішыні шчырым сэрцам пачуць
Твой голас адзіна жаданы хачу.
У подыху Тваім я моцны, я жывы,
Я Твой! І толькі Ты мой сэнс і лёс.

Смагу натоліць цела вадою,
А чым супакоіць мне прагу душы?

**Jan Pietrzak**
**Piosenka o szewcu**

Калісьці і дзесьці жыў люты дыктатар,
Нязгодныя з ім пазіралі праз краты,
А ён з лімузіну глядзеў на айчыну
І вернае войска трымаў перад хатай.
Яшчэ ў тых мясьцінах і ў тую ж часіну
Выдатныя шыліся боты.
Шавец абутковы хадзіў без аховы
І выпіць любіў па суботах.

Жыцьцё ідзе пацíху, ня ўсё як мае быць,
Ды дзе такое ліха, каб нам не перажыць?

Аднойчы шавец у пахмельным настрої
Дыктатару бомбу пад ногі прыстроіў.
Парваў, як анучу, — ня згрэбсьці ў кучу.
А заўтра ў краіне быў новы дыктатар,
Мацнейшае войска, таўсьцейшыя краты.
Шавец жа зацяты працуе заўзята,
Ды бомбы цяпер замест ботаў.

Ён цьвёрда ўверыў — дыктатары зьверы —
Дыктатараў на антрэкоты!

Жыцьцё ідзе пацíху, ня ўсё як мае быць,
Ды дзе такое ліха, каб нам не перажыць?

Быў трэці дыктатар, сабе толькі верыў,
Абутак шукаў найвялікшых памераў,
Чацьвёрты, наступны — герой непадкупны —
Так пяты казаў пра яго над труною.
А шостага сёмы заменіць вясною.
Шавец робіць бомбы, шавец робіць бомбы,
А ботаў няма ў краіне.
Ну сьмех, ды і годзе — у босым народзе
Дыктатары босыя гінуць.

Жыцьцё ідзе пацíху, ня ўсё як мае быць,
Ды дзе такое ліха, каб нам не перажыць?




**Мурка**
**(народная)**

Фраераў сьмярдзючых скубла на анучы
Мурка, як канкрэтная чума,
Кабакі-вакзалы бачылі нямала,
Але нехта фарт нам абламаў.

Раптам мы адчулі — нас мянты прэсуюць —
Зуб за сто — у баньдзе стукачок,
Але ж ён нарвецца, не сысьці мне з месца,
Прычакае піку ў левы бок.

Мурка — жаданьне палкае,
Мурка бяды накаркала,
Мурку маю кахную
Прыб’ю каб памятаць.

Мурка блатавала так, што месца мала,
Сьвет такіх ня бачыў цэнтравых,
Ці ж братва чакала, што ў чэку зьлівала
Мурка, курва, карашкоў сваіх.

ეკა ქევანიშვილი
**Ека Кеванішвілі**
წასვლა
**Адыход**

На дыбачках.
Як лютаўскі сьнег,
Што працінае сезон вятроў.
Брудных, халодных, пабітых аб падэшвы гор.
Як самотны праважаты на пероне
З нягеглай хусьцінкай
Адпраўляе з апошнім цягнікам
Пульс учорашняй начы абарванай венай.
Павольна.
Як п’янтос, што хістаецца, пакідаючы без ахвоты
Напаўпрыбраны памінальны стол,
І госьць,
Што стомленай гаспадыні
да сьвітанку
выказвае нікчэмную хвалу.
Так ідзе.
Зьнікае.
Як срэбра на пальцах ад часу.
Як грудзі з цела —
Неўпрыкмет.
Як сабака перад сьмерцю
Пакідае двор іншаму сабаку
І, чапляючыся за дарогу, ідзе
са шкадаваньнем пра былых гаспадароў.
Асьцярожна, стаіўшы дыханьне.
Як маці
Зачыняе дзьверы ў пакой немаўляці, калі тое сьпіць.
Як злодзей
З поўнымі кішэнямі чужых грошай,
чужога будучага гора
Зьбягае ціха з горада.
Так бяз сораму, як на расстрэл чужых сэрцаў.
Сыходзіць маё сэрца.
Перад выхадам абувае
Падараваныя табой крылатыя сандалі.
З чароўнай сілай.
З замовай —
Каб заўтра вярталіся.
Дарогу ведаюць.
Каб вярталіся.

ეკა ქევანიშვილი

**Ека Кеванішвілі**

შენით მიხვდი

**Здагадайся сам**

Кроў. Прыкладаеш да раны маёй трыпутнік.
Ты! Вядзьмар!
У валасах маіх срэбныя ніткі, патрэбныя,
каб вопратку імі вышыць тваю!
Ды састарэў ужо спосаб лячэньня, што вынайшаў ты.
Не дапамог.
Падрыхтуй жа мне ванну з рамонкаў.
Даткніся вады.
— Ну? Цёплая?
А рукі ў цябе дрыжаць, быццам знайшоў ты мяне
нерухомай.
Вось так.
Падняў.
Апусьці зараз.
— Ты абяцаў!
Прыгожай быць хачу і ў сьмерці!
Ты! Вядзьмар!
Пракляні ж трыпутнік, іргу і мяту.
Хай упрыгожваньнем мне будуць лекавыя травы.
Схавай мяне ў расколіну скалы, а ваду салёную
мяняй раз на месяц.
У студзені рамонкаў жа ня будзе —
дадай туды мёду ўсяго некалькі кропель,
каб цела захаваць да пацалунка,
што верне мне жыцьцё.
Хай увесь смутак сонечных праменьняў
вакол замкнецца,
А дзевяць з іх па чарзе для мяне ў прыцемках
ня сьпяць праз цэлую ноч.
Ты! Вядзьмар!
Што рабіць далей — здагадайся сам.
Забарона падказваць са сьвету памерлых.

ეკა ქევანიშვილი

**Ека Кеванішвілі**

ბრძოლის სიმღერა

**Песьня бойкі**

Такая была бойка —
Пакалечаныя ляжалі мы раніцай,
Ноч і я.
Я перамагла, я неба забіла — усход пачырванеў.
Націснула ілбом на вецер,
каб ён не прадыхнуў мяне наскрозь.
Ззаду крэпасьць.
Як ветразі напяў ён маю вопратку,
Шыю-вежу зламала, але яго зьнясіліла.
Нібыта ўбачыўшы параненага зьвера,
завыў і адвярнуўся, адышоў.
Зірнула на сукенку.
Устаць не магу ад цяжару —
Камянёў яна поўная.
Калі набрала, не ўзгадала.
Пакуль дачка прачнецца, падумала, збудую сьцяну.
Гліну замясіла, яйка дадала — легенду прыгадала.
Дачка, прачнуўшыся, мовіла, што вайна прысьнілася.
Дала ёй крэйду каляровую.
Каб ваўка, лес, сажалку, кветкі намалявала на сьцяне.
На вольным месцы да вечара ўтрапёна пісалі жаданьні.
Бойка была, каб я не заснула.
Не мая гэта была справа.
Як куля, засела рэўнасьць у лёгкіх —
Сама не дала рады, каб дастаць і адпусьціць.
Раніцай зьвярнулася да лекаркі.
— Дыхай глыбока. —
Нібы вырашыла са сьпіны дастаць да сэрца.
— Ратуй, — кажу ёй.
Цяжкі метал паплыў па маіх жылах
Такі цёплы і густы,
Не магу перамагчы, не магу пакінуць,
Атруту выпісала. Смутак.
Змагалася з горкім прысмакам
Такая была бойка. Саракадзённая.
Абедзьве нагі ацалелі,
Крэпасьць вытрывала.
Толькі зямлі падалося мала. Не хапіла.
Што ж вы зямлю забралі?

**Piotr Bakal**
**Nie boj sie**

Ня бойся.
Кожнаму вінен будзе твой страх.
Ня бойся.
Сам сябе мусіш трымаць у руках.
Глядзі толькі ўперад, кажы праўду ў вочы
І ў сябе дома жыві так, як хочаш.

Ня бойся.
Бо іх галоўны сподзеў на твой страх.
Ня бойся.
І будзеш надзейна стаяць на нагах.
Прыцісьнуць да плоту, наколькі дазволіш —
Тут кожны сабе абмяжоўвае волю.

Ня бойся.
Лёс табе дорыць найгоршы з часоў.
Ня бойся.
Пакуль што ты болей згубіў, чым знайшоў.
Былыя ілюзіі хутка разьвеяў —
Ты добра ўмееш нікому ня верыць.

Ня бойся.
Таксама, як бацька калісьці, як дзед.
Ня бойся.
Як сын не збаіцца і пойдзе ўсьлед.
Выбірай дарогу, каб ісьці бяз страху
З тымі, хто ратуе гонар, а ня сраку.

ეკა ქევანიშვილი
**Ека Кеванішвілі**

დღეს შეიძლება
## Сёньня — можа быць

Вада належыць кветкам — сёньня.
Сёньня — насыплю хлебных крошак на балконе:
пара ўжо вераб’ям вяртацца!
Па кончыках пальцаў б’ю жнівень веерам
з крылаў падрэзаных.
Навошта ён грэе, калі я паўсэрца захоўваю ў лёдзе?!
Сёньня ноччу я сарву месяц, пакуль ён тут цалкам,
увесь, поўны, каб у малако гарачае
хутчэй пакрышыць яго табе.
І лесу зьдзічэлага, магчыма, дадам у нашае вогнішча.
Яно маё і тваё — палае хай, пакуль мы жывём!
Сёньня — акіян мне да калена,
а з хмарачоса крок раблю ўніз —
так, быццам з лесьвічнай прыступкі.
Не патану! Не разаб’юся!
Не, нічога такога сёньня ня здарыцца...
Вось — з сярэдзіны вырві аркуш —
я падарую табе папяровы самалёт
і чары здыму. Ты заслужыў.
Сёньня — перахаплю я горныя хрыбціны, каб імі зямлю
прывязаць і затрымаць яе кручэньне,
каб гэтую ноч падоўжыць яшчэ на тысячу і адну
і заўважыць, абудзіўшыся, што мне сто,
табе ж — сто адзін,
і ты не паляцеў на тым папяровым самалёце...
Вада належыць кветкам — сёньня.

ეკა ქევანიშვილი
**Ека Кеванішвілі**
მე, შენი პანი
**Я, твая пані**

Вуліцы тут шырокія — мне месца хапае.
Блакітнавокія, залацістага колеру палякі
з ветлівым зваротам “пані” далі мне ў рукі мапу —
найскладанейшую кардыяграму свайго горада.
“Так ты знойдзеш найкаротшы шлях да нашых сэрцаў”.
Я, твая пані, стаю пасярод чужога,
восеньню састаранагагорада,
параўноўваю пальцы з пальчаткамі, што зьбіраюся
табе набыць, і падаю сваё запясьце замест твайго
гандлярцы гадзіньнікамі, каб наноў пачаўся адлік.
Засумавала. Прысела на ўспаміны старога горада,
хачу выпусьціць адсюль галубоў з пасланьнямі.
Пра масты даўгія… Я напішу табе…
Твая пані намагаецца падмаляваць кожнай вуліцы,
на якую яна трапляе, твой тупік з усімі
ўзваленымі на яго паверхамі кожнага дома.
Штохвілíннае “дзякуй-прабачце”,
усьмешку без прычыны —
усё гэта прыйдзецца цягаць з сабой
па кавярнях яшчэ дзесяць дзён,
пасьля — вызначаць вар’яцтва крокаў па ступені суму
і ставіць дыягназ гораду па яго кардыяграме,
на апошнім піку якой я пасьлізнулася.
Па дыягназе, мной пастаўленым, без цябе гэты горад —
самы мёртвы горад на зямлі.

**Da Vinchi**
**L'amore non esiste**

Сустрэў выпадкова
Я цябе ўчора.
Была ты такая,
Якую шукаю.
Нібыта што трэба
Мне падарыла неба,
Было для сэрца міла
Усё, што ты рабіла.
Але казалі вочы,
Як ты другога хочаш,
Гучалі выпадкова
Нязнойдзеныя словы,
Здавалася далёкай
Жаданая палёгка.
І толькі з разьвітаньнем
Прыйшло выратаваньне.
Каханьне ня ўзьнікла,
Не прыйшло
Учора.

Каханьню не хапіла цябе.

Цяпер жыву спакойна —
Хацеў каханьня —
Атрымаў свабоду.
Яна мне патрэбна,
Каб дыхаць паветрам
І болей ня думаць,
Што мне з табою сумна.
Трэба пачаць
Пра цябе забываць.

Была ты такая,
Якую шукаю,
Здавалася мілым
Усё, што рабіла.
Казалі мне вочы —
Другога ты хочаш,
Было разьвітаньне
Як выратаваньне.
Каханьне без цябе
Патрэбна мне.

ნინო ქათამაძე
**Ніно Катамадзе**
ერთხელ ქუჩაში
**Аднойчы на вуліцы**

Знаёмы вецер
Пасярод лета
Прынёс мне водар
Непараўнальны.

Так пахне ранкам
Твой ціхі голас,
У промні сонца
Пачуты раптам.

Датуль, пакуль ты не са мной,
Не пачнецца новы дзень,
І я жыву сярод надзей,
Што мне ня доўга быць адной.
Што мне ня доўга быць адной.

Сьветлыя мары
Ціха праходзяць,
Дыхаю ветрам,
Покуль ён побач.

Сьветлыя мары
З ветрам зьнікаюць,
Я застаюся,
Я пачакаю.

**Renata Przemyk**
**Kochaj mnie jak wariat**

Досыць мне плэйбояў, задаўбаў гламур,
Збрыдзела ілжывая прыстойнасьць слоў,
Хопіць мне ўздыхаў, сьветлых мар і зор...
Пакахай мяне,
Як ашалелы тхор.

Выбі дзьверы ў хату, ад жаданьня злы,
Абярні канапу і знайдзі мяне.
Дакажы, што тут ты нездарма ўзьнік —
Авалодай мной,
Як апантаны бык.

Потым, сярод ночы, крыкам абудзі
І, парваўшы коўдру на мільён шматкоў,
Забяры мяне ў свой вар'яцкі сон.
Будзь са мной пяшчотны,
Як зьдзічэлы слон.

А пасьля сьвітаньне прыйдзе праз вакно,
І маю ўдзячнасьць будзе не стрымаць...
Калі ты дахаты не зьбярэшся сам,
Добрым санітарам
Я цябе аддам.

**Arthur Crudup**
**That’s All Right, Mama**

Усё было нармальна, мама,
Я кажу табе.
Усё нармальна, мама,
Прыгатуй для нас абед.
Я раблю
Усё як сьлед.
Усё нармальна, мама,
Не хвалюйся так.

Слухай ты, што бацька кажа,
Супакой сябе.
Слухай бацьку, мама,
Зразумей і не пярэч.
Я раблю
Усё як сьлед,
Усё нармальна, мама,
Не хвалюйся так.

Слухай ты, што хлопцы кажуць,
Яны, пэўна, маюць густ.
Ты паслухай хлопцаў, мама,
Яны хутка будуць тут.
Я зраблю
Усё як сьлед.
Усё нармальна, мама,
Не хвалюйся так.




**Vu iz dos gesele**
**(народная)**

Шарык блакітны ў небе лунаў,
Хлопец дзяўчыну па сьвеце шукаў,
Шарык блакітны за плот паляцеў,
Хлопец дзяўчыну ўкрасьці схацеў.

Дзе тая вуліца, дзе яе дом?
Сэрца трымціць і палае вагнём…
Вось тая вуліца, вось яе дом,
Вось і сама яна перад вакном.

Сьмела бліжэй да яе падыйду,
Слова скажу, абдыму і скраду.
Крылы каханьне нам дасьць, каб ляцець,
Зоркамі яснымі з неба зіхцець.

Шарык блакітны ляжыць пад кустом,
Для закаханых у небе ёсьць дом.
Шарык блакітны адлётаў сваё,
Хлопец з дзяўчынай навекі ўдваёх.

**Васількі**
**(народная)**

Ах, васількі, васількі,
Колькі іх вырасла ў полі,
Покуль ішлі да ракі,
Коля зьбіраў іх для Олі.
Оля любіла раку,
Коля любіў толькі Олю —
Безьліч жыцьцёвых пакут
Выпала Колю на долю.
Нібыта нейкі праклён
Жыць не даюць падазрэньні,
Оля ж казала, што ён
Проста сабака на сене.

Як падыйшлі да ракі,
Вёслы ў ваду апусьцілі,
Кінуўшы два васількі,
Рэчку яны папрасілі —
Ты нам, вада, патлумач,
Маем такое пытаньне —
Нам паратунку няма
З гэтым няпростым каханьнем.

Олін — адразу на дно,
Коляў жа троху паплаваў,
Стала канкрэтна відно,
Хто каму рогі наставіў.
Коля дрыготкай рукой
Олю ў рэчку ўкінуў —
Вось ён, жаданы спакой —
Мара любога мужчыны.
Бачылі ўсё рыбакі,
Колю яны спачувалі,
Толькі праз тыдзень з ракі
Олю нарэшце дасталі.
Ах, васількі, васількі
Зьлева і справа на полі,
Помню да самай ракі
Коля зьбіраў іх для Олі.

**Константин Беляев**
**Что-то сигарета гаснет**

Нешта папяроска згасла,
Хоць цягну яе няслаба —
Можа ўспамінаюць людзі,
Можа праклінаюць бабы,
А можа гэта ты самотна
Пад вакном праходзіш злосная,
І агонь гарэць ня хоча,
Патухае папяроска.

Дым кольцамі
Разьлятаецца: чых-пых,
Нам такой шырокай вуліцы
Не хапае на дваіх.

Я твае ня чую крокі,
Я твае ня бачу вочы,
Але ты паўсюль, навокал,
Да мяне ідзеш, ня збочыш.

Што ж табе ізноў ня сьпіцца?
Што цябе па сьвеце гоніць?
Можа мне ў хлам напіцца,
Каб цябе зусім ня помніць.

Камянём на сэрцы памяць,
І пятлёй на шыі думкі.
Ты калісь была чаканай
І жаданай, і разумнай,
Ды чагосьці не хапіла,
І кудысьці чэрці вабяць.
Ну чаму вы ўсе такія,
Дарагія нашы бабы?

Дым кольцамі
Разьлятаецца: чых-пых,
Нам такой шырокай вуліцы
Не хапае на дваіх.

**Ген Шангин-Березовский**
**Царевна-несмеяна**

Ты стаіш ля вакна
Цераз вуліцу ад неба,
Непраглядны свой сум
Ня ўмееш разагнаць...
Ты кахаеш таго,
З кім усё ня так, як трэба,
Ты ізноў без яго
Ля вакна стаіш адна.

Ну чаму толькі ён,
Ёсьць жа іншыя навокал,
Можа проста табе
Няўтульна быць адной.
У абшарах зімы
Не знаходзіцца палёгка,
Але верыцца, што
Нешта зьменіцца вясной.

Пройдзе час, пройдзе час,
І прыпомніш ты з усьмешкай
Гэты вечар, як сон,
Ранкам новага жыцьця.
А пакуль, а пакуль
Сьветлым сумам непазьбежным
Разьвітаньне з дзяцінствам
У мокрых вачах.

**George Gershwin**
**Summertime**

Летні дзень
Поўніць сонцам паветра.
Непрыкметны
Просты ліпеньскі дзень.
І няма праблем
Ні ў душы, ні навокал,
І ўжо праз два крокі
Распачнецца палёт.

І вабяць высі,
І неба абапал,
І ні воблачка,
І толькі сінь.
Час прыпыніўся,
Перастаўшы сьпяшацца
У гэты бязьмежны
Летні дзень.

Летні дзень
Поўніць сонцам паветра.
Непрыкметны
Просты ліпеньскі дзень.
І няма праблем
Ні ў душы, ні навокал,
І ўжо праз два крокі
Распачнецца палёт.

